№ 65 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 65 (157). Год II. Вільня, 14 жніўня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Тымчасовы урад скасаваў усе агранічэньня для уніяцкаго касьцёла.

### 13 жніўня.

Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Фляндрыі пасьля зацішнаго дня баевая чыннасць у вечары дайшла значнай сілы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Уздоўж Шмэн дэ Дам і ў заходняй Шампані баевая чыннасць значна узмацавалася. На поўначы ад дарогі Ляон—Суассон французы ўчора раніцай вялі сільные штурмы; яны адбіты агнём і штыкамі.

**На пауночным фронці Вэрдэну, наабапол Маасу узняліся вострые артылерыйскіе бітвы.**

---

Адна з нашых лятучых эскадр зрабіла налёт на Англію і абкідала бомбамі Саўзэнд і Маргэт у усьці Темзы. Адзін з нашых самалётаў не вярнуўся.

На сушы ўчора збіты 14 варожых самалётаў і 1 лятучы шар.

У месяцы ліпню нашы ворагі утрацілі ўсяго 34 лятучые шары і 213 самалётаў, у тым ліку 98 за нашым і 115 за сваім фронтам. Мы утрацілі 60 самалётаў і 1 лятучы шар.

Усходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Жывейшы агонь на поўдні ад Смаргоні, на заходзе ад Луцка, ля Тарнополя і на Збручу.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: Ня гледзячы на вельмі сільны адпор ворагоў мы пашырылі здабыты намі абшар на поўдні ад Тротусуля.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Упорна бараніўшаеся место Панчіо ўзято штурмам. Контратакі расейцоў і румыноў на суседние адрэзкі былі дарэмны.

---

ЛЮГАНО. «Secolo» даносіць с Пецярбурга:

Рада раб. і салд. значнай перэвагай прыняла жаданьне тымчасоваго ураду аб перэдачы Керэнскаму шырэйшых паўнамочый. На заседаньні былі, як госьці, румынскіе ваенные дэлегаты. Рада раб. і салд. усемі галасамі проці 49 прыняла **РЭЗОЛЮЦІЮ ПАЛАЖЫЦЬ КАНЕЦ НАСТУПЛЕНЬНЮ.**

ШТОКГОЛЬМ. Два выдатные кіраўнікі большэвікоў, Троцкій і Луначарскій, арэштованы ў Пецярбурзі за прыналежнасць да бунту ў ліпню месяцу.

КОПЭНГАГА. Паводлуг вестак с Пецярбурга установчы сэйм будзе созван толькі праз 2 або 3 месяцы, бо цяперашняе палажэньне на фронце і ў старане не падходзіць дзеля выбароў. Дзеля выбароў кандыдатоў у установчы сэйм паводлуг пяці фронтаў установлены пяць выбарных акругоў. Апрыч таго асобные выбарные акругі будуць у Фракіі, Армэніі, Пэрсіі, Франціі і Македоніі.

РОТТЭРДАМ. Дзеля характэрыстыкі новай дыктатуры ў Расеі Гавас даносіць с Пецярбурга:

Камітэт нацыональнай абароны высказаў сваю згоду на важны праект закона. Новы закон мае загадаць, каб афіцэры атрымлівалі камандзіроўкі с шырокімі паўнамочамі дзеля ўпарадкаваньня адносін між фабрыкантамі і работнікамі ў фабрыках. Афіцэрам гэтым будзе дадзено право назначаць заработную плату і выдаляць работнікоў і служачых у фабрыках. Яны такжэ маюць право проці неслухмяных ужываць ваенную сілу. Фабрыкі, каторые працуюць дзеля гасударственай абароны, атрымліваюць спэцыальные льготы пры дастаўцы апалу, сырцоў і т. п.

ЖЭНЕВА. **Французская граніца** ад поўначы 11 жніўня зусім закрыта. Разам с тым спынена почта і высылка газэт.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У поясе блокады навакол Англіі нашы падводные лодкі ізноў затапілі 21.000 тонн.

ВІЛЬНЯ. Па загаду начальніка Militärverwaltung Litauen забаронено ужываць салому дзеля пасьцілкі пад страхам штрафу грашмі да 500 м. або арэшту да 14 дзён. Таргоўля жывёлай без пазваленьня начальніка павету на пісьме забаронена, і за яе карацімуць штрафам грашмі да 6.000 м. і вастрогам да 6 мес., а жывёлу будуць конфіскаваць.

---

## Каля школьнай справы.

«Gutta cavet lapidem non vi, sed saepe cadente»*)—кажэ старая лацінская прыказка. Гэтак і спакойная, упорная культурная работа беларусоў прабівае нашаму народу выхад на вольны сьвет, адкрывае перад ім дарогу да ясьнейшаго культурнаго жыцьця.

Вядома, што дзеля развіцьця нацыональнай культуры, дзеля таго, каб народ мог знаёміцца з усімі культурнымі скарбамі іншых нацыональнасьцей, не губляючы сваей нацыональнасьці, народу патрэбна школа, патрэбна навука ў роднай мове яго. У гэтым кірунку беларусы ў межах окупацыі і напружаюць усе свае сілы.

Скора пасьля прыходу ў наш край немцоў — у канцы 1915 году—ў Вільні пачалі адкрывацца першые беларускіе народные школы. Але для школ патрэбны вучыцелі. Разумеючы гэта, Беларускі Камітэт адначасова наладзіў тут жэ, ў Вільні, вучыцельскіе курсы, каторые цераз паўгоду навукі далі колькінадцаць кандыдатоў і кандыдатак дзеля заняцьця мейсц вучыцелёў у беларускіх школах. Першы выпуск быў у восені 1916 году, але ўраз жэ новаго курсу наладзіць не ўдалося: патрэбнае пазваленьне было дадзено толькі вясной 1917 г., і курсы, папрацаваўшы зусім кароткі час, былі прыпынены на летніе вакацыі. Затое за той самы час — ад восені 1916 г.—у Сьвіслочы, у Гродзеншчыне, была адкрыта беларуская урадовая вучыцельская сэмінарыя, і дагэтуль яна дала ўжо два выпускі народных вучыцелёў—разам каля 50 душ. Апрыч таго за апошніе два гады пазанімалі мейсцы народных вучыцелёў людзі, меўшые даўнейшую падгатоўку і працаваўшые па іншых школах.

Як бачым, памалу, крок за крокам узрастае чысло чынных работнікоў на ніве беларускай прасьветы. А разам с тым узрастае і чысло беларускіх школ: гадунцы вучыцельскай сэмінарыі у Сьвіслочы атрымліваюць школы ўраз жэ пасьля аканчаньня курсу.

Ад 1 верасьня пачынаецца трэйці курс у сьвіслочскай сэмінарыі. Будзем спадзевацца, што і віленскіе курсы атрымаюць магчымасць вясьці далей спыненую работу. А гэтак кадры народных вучыцелёў будуць усё болей узрастаць, кладучы моцны фундамэнт для беларускай народнай школы.

Пішучы гэтые словы нельга, аднак, устрымацца і ад горкіх слоў. Між курсістамі у Вільні і у Сьвіслочы, наагул, каталікоў ня менш, чым праваслаўных,—і ўсё-ж такі дагэтуль мы не бачым, каб на вёсках адкрываліся беларускіе *каталіцкіе* школы: што было адкрыто, то адкрыто толькі для праваслаўных. Няўжо-ж гэты ненормальны стан будзе трываць да канца вайны?..

Г. Б.

*) Капля доўбіць камень ня сілай, а тым, што часта ўдарае.

---

## У Вільні і ваколіцах.

× **У Беларускім Камітэцї.** На заседаньні павялічэнаго у сваім складзі Камітэту Беларускаго Т-ва пом. пац. ад вайны 10 жніўня адбыліся выбары новаго сэкрэтара Камітэту замест выбыўшаго п. В Ластоўскаго. Выбран усемі галасамі п. Язэп Салавей.

Камітэт разгледаў цэлы рад праектоў адкрыцьця новых стравень. Пастаноўлено прыняць да сваей цэнтралі і пад свой кантроль народную страўню, ладжэную беларускай коопэратывай „Райніца“, і прыступіць да організацыі аднэй страўні для сярэдня-заможнаго стану («Mittelstandsküche»).

× **У народных страўнях.** С прычыны таго, што пры рэгістрацыі ў народных страўнях выдаюць цяпер на кожную асобу ня больш, як па аднэй порціі абеду, а так сама с прычыны агульнаго паніжэньня цэн спажыўных прадуктоў (з новаго ураджаю) у вольнай прадажы у апошніх днях выяўляецца некаторае паменшэньне числа выдаваных абедаў. Аднак, трэба думаць, што з набліжэньнем восені число выдаваных абедаў пачне шыбка узрастаць, і дай Божэ, каб адкрытые ўжо і новаладжэные публічные страўні здалелі бы сёлета здаволіць усіх патрэбуючых, ды каб мы не былі сьведкамі, як у тую зіму, безканечных „хвастоў“ пры страўнях.

× **Новы сцэнічны твор.** Як мы даведаліся, аўтор п'есы „На Антокалі“ і цэлаго раду дробных сцэнічных абразкоў, доўгалетні кіраўнік беларускай драматычнай дружыны ў Вільні, п. Ф. Олехновіч, выехаўшы на вёску, апрацовывае новы твор для беларускай сцэны з віленскаго жыцьця.

Будзем спадзевацца, што на восень твор гэты віленскіе беларусы пабачуць на сцэне.

× **Пагода ў ліпню.** Калі май і чэрвень былі лішне сухіе, дык ліпень даў больш водных асадкоў, чым звычайна. За 24 дажджлівые дні ліпень даў 139,8 міліметроў асадкоў, і селяне просяць цяпер

Ад 14 жніўня па ўсей Расеі заводзіцца монополія на апал.

Цяперашні ўрад адрокся ад праекту сазваць у Маскве надзвычайны нацыянальны з'езд.

Тымчасовы ўрад апавяшчае, што с права выбараў будуць карыстаць мужчыны і кабеты, скончыўшые 20 гадоў. Выключающца дэзэртэры і ліхадзеі.

Усе прэдпрыемствы, каторые працуюць дзеля нацыональнай абароны, працуюць адгэтуль пад кантролем уласьцей.

Савенков, памочнік Керэнскаго ў ваенным міністэрстве, у сваім часе ўладзіў пакушэньне на в. князя Сергея і вядомы сваімі тэрорыстычнымі актамі.

Забіт камэндант Кацярынаслава, генэрал Каульбарс. Тамтэйшая рада раб. і салд. распушчэна.

Тымчасовы ўрад пастанавіў вярнуць палітычную паліцію.

Тымчасовы ўрад аб'яўляе неправўдзівымі чуткі аб забойстве генэрала Эрдэлі, блізкаго прыяцеля Керэнскаго. Эрдэлі бытцым-то знаходзіцца на фронці і працуе над організацыей адной арміі.

ЛОНДОН. „Morning Post“ піша, што рух праз Фінляндзію чыгункай зусім забаронен. Керэнскій аб'явіў, што Фінляндзія знаходзіцца ў ваенным поясе.

«Русск. Воля» піша аб арэшці трох людзей, памыкаўшыхся забіць Керэнскаго. Аднак, газета кажа, што яны ўсе — тыповые правакатары, ды адзін з іх нават належыць да «ахраны».

ПЕЦЯРБУРГ. Міністэр фінансоў, Некрасов, прыняў дэпутацію ад украінскай цэнтральнай рады дзеля развязкі розных спраў, звязаных з будучынай Украіны. Дэпутація жадае, каб у склад Украіны ўвайшлі 10 губэрній: Кіеўская, Палтаўская, Падольская, Валынская, Чарнігаўская, Харкаўская, Кацярынаслаўская, Херсонская, Таўрыдская і Бэсарабская. Лёс ваколіц з мешаным насяленьнем развяжэ галасаваньне.

ШТОКГОЛЬМ. «Aften Bladet» даносіць с паўночнай Расеі, што англічане крэпка заселі на паўострэві Кола і у Архангельску, дзе вядуць сябе так, як поўные гаспадары. Было многа стычэк між англічанамі і расейскімі ваеннымі.

Карэспандэнція рады раб. і салд. даносіць, што тымчасовы ўрад забараніў пераход нерухомасьцей з адных рук у другіе. Гэты крок вызван тым, што шмат землеўласьнікоў, баючыся конфіскаціі зямлі, перэпрадалі свае двары англічанам, амэрыканцам і японцам.

ШТОКГОЛЬМ. „День“ піша, што між Пецярбургам і Кіевам зроблено пакушэньне на ваенны поезд. Усе вагоны шмат пацярпелі, два вагоны с салдатамі зусім разбіты.

БЭРН. «Temps» даносіць с Пецярбурга, што асобы, незаконна выступаўшые, як дэпутаты с фронту, падмаўлялі пецярбурскіе войскі рабіць дэмонстраціі.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Міністэр заграничных спраў загадаў выдаць 2 мільёны руб. на падмогу вярнуўшымся ў Расею палітычным ссыльным.

БЭРН. Камэнданта Коткі, у Фінляндзіі, палкоўніка Ромэйко, забілі ў яго кватэры.

## З усяго сьвету.

ВЭРН (В.Т.Б.). „Stampa“ даносіць, што на лондонскай конфэрэнціі прыняты геткіе тры пункты:

1, на раздзел Аўстрыі англіцкіе урадовые кругі прыстаюць;

2, між італьянцамі і сэрбамі устанаўліваецца угода аб Адрыатыцкім моры;

3, саюзьнікі выходзяцца на тым, каб быў недапушчэн ні адзін крок, каторы паказваў-бы на згоду на ўчасьце у штокгольмскай конфэрэнціі.

АМСТЭРДАМ. Амэрыканскі міністэр заграничных спраў Лянсінг адкінуў просьбу галавы соцыялістоў, Хільквіта, выдаць яму пашпарт у Штокгольм.

НЬЮ-ЮРК. Работніцкі рух у Мічыгане і Колорадо прынімае характэр сур'ёзных разрухоў, вельмі грозных для ваенный прамышленасьці. З работніцкіх арганізацій, якіе прылучыліся да руху, выключэны ўсе немцы.

ПАРЫЖ. Газэта „Pays“ даносіць, што міністэр Тома астанецца ў міністэрстве толькі тады, калі даб'ецца для французскіх соцыялістоў выдачы пашпартоў у Штокгольм. Калі іншые міністры будуць проці гэтаго, дык Тома аканчацельна перакінецца да опозиціі.

БЭРН (В.Т.Б.). „Tagblatt“ даносіць с Парыжа, што Пуанкарэ заявіў аб сваей думцы выйсці у адстаўку.

ЛОНДОН. (Рэўтэр) Член работніцкай партыі, міністэр працы Гэндэрсон, падаўся у адстаўку.

«Daily Chronicl» даносіць, што Француя не дасць пашпартоў асобам, каторые хочуць ехаць на Штокгольмскую конфэрэнцію.

Работнікі перэвагай 1.846.000 проці 555,000 галасоў прынялі рэзолюцію аб пасылцы дэлегатоў у Штокгольм. Прэдстаўнікоў першых было 541, другіх—184.

ЛОНДОН. Перэвага галасоў у работніцкай партыі, пададзеных за выступіўшаго з міністэрства Гэндэрсона, зрабіла страшэнна сільнае уражэньне. Вялікіе групы прамысловых работнікоў, у тым ліку капальняных, падавалі за яго блізка ўсе свае галасы.

ЛОНДОН. Спаўніцельны камітэт работніцкай партыі перэвагай 3 галасоў пацьвярдзіў ешче раз сваё жаданьне, каб прэдстаўнікі партыі паехалі-бы у Штокгольм

ЛОНДОН. Англіцкай почце загадано рабіць па тры копіі з усяе пачтовай карэспандэнціі і пасылаць яе на трох пачтовых караблёх; гэтак будзе надзея, што прынамсі адзін з іх астанецца цэлы і дойдзе паводлуг назначэньня.

ЖЭНЕВА. Грэцкі урад пастанавіў аб'явіць па ўсей старане асаднае палажэньне.

МАДРЫД. *(урадова)*. С прычыны таго, што жалезнадарожнікі упіраюцца пры забастоўцы, урад адмовіўся ад пасрэдніцтва, каторае ня можэ прынесьці ніякай карысьці. Урад не дапусьціць ніякіх актоў, грозных нацыональнаму жыцьцю

МАДРЫД. (Гавас). Организованые жалезнадарожнікі на паўночным вагзалі 10 жніўня пачалі забастоўку.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**10.VIII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндрыі артылерыйская бітва крапчэла ў вечары і пачы і сягоньня на раніцы між Ізэр і Ліс дайшла да найсільнейшаго барабаннаго агня. Пасьля пачаліся сільные пешые штурмы ворагоў. У Артуа артылерыйская бітва набапол Ленс і на поўдні ад Скарп была вельмі ажыўлена. У вечары англічане атакавалі густымі массамі і, панёсшы незвычайна цяжкіе страты, былі ўсюды адкінуты. На поўначы ад С. Кантэн мы здабылі францускіе пазыціі на шырыні 1200 мэтроў са 150 палоннымі. Контратакі ворагоў усюды адбіты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Між Суассон і Рэймс, у заходняй Шампані і на абодвых берагох Маасу агонь дайшоў значнай сілы. Францускі атрад ля дарогі Ляон Суассон уварваўся ў нашы акопы, але быў выкінут адтуль контратакай.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Ля Дзьвінска, на поўдні ад Смаргоні і каля Бродаў крапчэла баевая чыннасць. Нямецкіе і аўстрыяцкіе войскі ўзялі тут 200 палонных.

Фронт *эрц-гэрцога Іозэфа*: На палудзенным усходзі ад Чэрновіц—упорные бітвы. У даліне Сэрэта, пры Солце, між далінамі Тротуса і Путны мы пасунуліся ўпярод. На адрэзку Ойтоса за апошніе два дні мы ўзялі больш за 1300 палонных і 30 кулемётаў.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Наабапол дарогі Фокшаны—Ад'юдуль нямецкіе дывізіі на шырокім фронці перайшлі цераз Сусіту. Каб нас задзержаць, ворагі вялі вялікімі массамі контратакі; яны адбіты, панёсшы вельмі цяжкіе страты.

**11.VIII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Англіцкіе атакі былі ведзены ўчора некалькімі дывізіямі. Густым массам іх сперша ўдалося ўварвацца на нашы лініі,—аднак шыбкай контратакай яны былі ізноў выкінуты, пры Вэстгуку—толькі пасьля доўгай бітвы штыкамі. Артылерыйская бітва на узбярэжжы і між Варнэтон і Маркэм ізноў дайшла вялікшай сілы. Сягоньня раніцай агонь так сама крапчэў. На поўначы ад С. Кантэн французы некольскі разоў атакавалі здабытые намі акопы пры Фэ. З малымі выключэньнямі мы ўсюды іх спынілі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Шмэн дэ Дам—мейсцовые бітвы ля Руаер Фэ. Пры Высокай гарэ, у Заходняй Шампані, здабыты часьці францускіх акопаў і удзержаны намі проці сільных контратак.

Збіты 19 самалётаў і 2 прывязные шары.

**Усходні тэатр:**

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: Упорна бараніўшыеся ворагі былі адкінуты на ўсход з даліны Сланіца і Ойтоса.

## А марнасьці сьвета.

Чэлавечэ мізэрны,
Ты ёсць порох земны,
Не дуфай на ўроду,
Бо пойдзеш да гробу
Зненацку.
Ані на багацтва,
Бо то ўсё рабацтва,
Ні ў срэбра і ў злота,
Бо ўсё то балота
У Бога.
Дарагіе шаты
Пагніюць на латы;
Не дуфай на славу,
Ня возьмеш у яму
Да гробу.
Ні ў гэрб, ні ў булаву,
Усяго сьвету славу,
Ані ў розум свой,
Бо будзе ня твой,
Як кінеш.
Чэлавечэ марны,
Дзе-ж жывот твой слаўны?
У дамавіну зложэн,
Чэрвям прыспасоблен
На страву.
Пакуль ўжываў сьвета,
Думна траціў лета,
Усёж ня ўцёк ад сьмерці
І трэба памерці,
Хоць страшна.
Ня трэба грашніці,
Каб пекла нажыці,
А пытаці Бога,
Дзе тая дарога
Да неба.
Прасіць Яго прыняці,
І не памятаці
На ўсе свае злосьці,
І на неправосьці,
Што здзеяў.
О, Ойчэ і Сыне,
У Тройцы ядыне,
Прыймі душу грэшну
У пакой адвечны
Па сьмерці.

## Песьня да Езуса Хрыста.

Хрысьце, пастыру добры, сэрцу асалода
Адзін у маркоці Ты ўцеха мая, мая нагарода.
Кажэш душы маей:—Тваё адно збаўленьне—
Ачышчэньне з грахоў, у рай усяленьне.—
А мне к Табе, к добраму Богу, прыслухацися
І на Тваё толькі міласэрдзе спадзявацися.
Хто-ж мяне ў маіх бедах спаможэ,
Калі ня Ты, Хрысьце, добры наш Божэ?!
Хачу я ядына с табой толькі жыці,
Цябе, Бога, заўсёды у сэрцы насіці.
Дазволь ва мне бытаваці, грэшнаму яўляйся,
Мной грэшным і нягодным, Божэ, не чурайся!
А калі парван будзе мой жывот, мая неслава,
Ты мне сілу, крэпасць дай, прыймі ў вечну славу.
Цешуся я с сілы Тваей, с славы весялюся,
Табою ва ўсе векі, Божэ мой, хвалюся.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Сем разоў вялізарные сілы ворагоў атакавалі здабытые намі пазыцii ў даліне Сусіты. Ворагі мелі незвычайна цяжкіе страты і нічога не дайшлі.

**12. VIII. Заходні тэатр.**

У Фландрыі артылерыйская бітва аслабела. Толькі ўвечары яна узмацавалася і была сільнай такжэ ў начы. Сягоньня раніцай пасьлѣ барабаннаго агня на чысьленых пунктах наступалі варожые сілы. Яны ўсюды адбіты. На поўначы ад Голебэкэ англічане атакавалі некалькімі палкамі, але адкінуты с цяжкімі стратамі. Ад канала Лябассэ да палудзеннаго берагу Скарп і на паўночным заходзі ад С, Кантэн артылерыйская бітва узмацавалася. На фронці Эн, у заходняй Шампані і наабапол Маасу ажывілася чыннасць артылерыі. Пры Сэрні адбіты з вялікімі стратамі дзьве французскіе атакі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: На поўдні ад даліны Тротусуля узяты горные пазыцii і вёска Гроцэсэі. На поўдні ад даліны Ойтоса сьвежые сілы ворагоў у новых вострых контратаках сплываюць крывёй без ніякай удачы.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Бітвы на поўначы ад Фокшан трываюць далей. Між Сэрэтам і чыгункай у Ад'юдуль расейцы і румыны вялікімі сілами атакавалі нашы лініі, але былі адбіты без астатку. На заходзі ад чыгункі нямецкіе войскі сільнай атакай адкінулі ворагоў на поўнач. Пачынаючы ад 6 жніўня мы на гэтым фронці ўзялі больш за 130 афіцэроў, больш за 6500 салдатоў, 18 гармат і 61 кулемёт.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БАЗЕЛЬ. Кожын момэнт ждуць афіцыальнаго аб'яўленьня Кітаем вайны Нямеччыне.

БАЗЭЛЬ. „Corr. d. Sera“ даносіць: Лондонская конфэрэнція пастанавіла перэглядзяць ваенные мэты саюзьнікоў згодне з расейскім прэдлажэньнем.

У англіцкім войску выкрыты чысьленые прыпадкі перапіскі англіцкіх салдатоў с пецярбурскай радай раб. і салд.

ЛОНДОН. (Рэйтэр). На заседаньні сэрбскаго таварыства у Англіі міністэр заграничных спраў, лорд Сэсіль, між іншым, сказаў:

„Мы павінны дабіцца поўнай адбудовы Сэрбіі. Мы прызнаем усе дамаганьня сэрбскаго народу. Мы будзем стаяць за нашых саюзьнікоў да канца“.

Пашіч адказаў:

„Першая умова пачэснаго міра—гэта кара для тых, хто вызваў сусьветны пажар. Пачэсны мір магчымы толькі тады, калі ўсе паняволеные народы Аўстро-Вэнгрыі будуць вольнымі, калі Франція вызваліць Эльзас-Лотарынгію, калі Італія вызваліць сваіх паняволеных братоў, калі закончыцца з'еднаньне сэрбоў, хорватоў і словінцоў, калі злучацца чэхі са славакамі і калі будзе развязано польска-украінскае пытаньнэ“.

Ллойд Джордж сказаў:

«Першая умова міра—гэта поўная адбудова Сэрбіі ў поўным абёмі. Як бы доўга вайна ні цягнулася, чэсць Англіі вымагае вызваленьня Сэрбіі».

ЛОНДОН. Паводлуг афіцыальных спісоў, ад лютаго да 1 ліпня англіцкая армія утраціла 320.000 душ.

ЛІВЕРПУЛЬ. У новым англіцкім бюджэці асыгновано 10 мільярдоў марак на падмогу англіцкім таварыствам, пацярпеўшым ад падводнай вайны.

БЭРЛІН. Французская газэта „Figaro“ даносіць, што, паводлуг лондонскай умовы с 6 красавіка 1915 г., Італія атрымае усходняе узбярэжжэ Адрыатыцкаго мора. У той час Італія афіцыальна лічылася яшчэ саюзьніцай Аўстрыі, каторую, як відаць, яна пастанавіла абрабаваць за 48 дзён перад аб'яўленьнем вайны.

ВЕНА. У начы з 8 на 9 жніўня 25 варожых самалётаў зрабілі налёт на Полю і скінулі там 90 бомб, але не зрабілі ніякіх сур'ёзных шкод.

БЭРЛІН. (В.Т Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Атлянтыцкім акіані і Паўночным моры: 21.000 тонн

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіані і канали Ляманш ізноў затоплены падводнымі лодкамі 23.000 тонн.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.